# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі:** **Цана 1 даляр**

"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y. 11217

**№ 52** **СЬНЕЖАНЬ — 1979 — DECEMBER** **Год 25**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Народу Беларускага на чужыне і на Бацькаўшчыне**

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! ЯГО СЛАЎЦЕ!

**„Бо так узьлюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі уверыўшы ў Яго не загінуў, але меў жыцьцё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет быў збавёны праз яго".**

(Ян. 3, 16-17)

З Волі Госпада Бога нашага Другая Асоба Прасьвятой Тройцы — Сын Божы — дзеля нашага збавеньня прыняў чалавечае цела й нарадзіўся ад Прасьвятое Дзевы Марыі. Гэты дзень Нараджэньня Збавіцеля мы кожны год урачыста сьвяткуем, сьцьвярджаючы гэтым самым навуку Сьвятое Царквы, і верым, што Хрыстос ёсьць Сынам Божым.

Вера гэтая сягае сваім пачаткам у старазапаветную гісторыю, калі было абвешчана праз пракорокаў за некалькі стагодзьдзяў да Новага Запавету, і калі людзі ў надзеі чакалі на прыход Месыі.

Сьвята Нараджэньня Хрыстовага мае вялікае значэньне для нас і ў сучаснасьці. Яно заклікае нас углыбіцца ў ягоны зьмест, бо Нараджэньне Хрыстовае — гэта зьява зусім іншая, чым нараджэньне навет самых вялікіх людзей.

Калі людзі сьвяткуюць нараджэньне выдатных асобаў, яны славяць іхнае мінулае і іхных продкаў. Але Сьвята Нараджэньня Хрыстовага не падобнае да такіх сьвяткаваньняў. Яно ёсьць Сьвятам чыну незакончанага. Нараджэньне Хрыстовае — гэта Сьвята

Вялікае і Сьвятое Надзеі,зьдзейсьненьне якое ляжыць у будучыні. За восем стагодзьдзяў да Хрыстовага Нараджэньня прарок Ісайя натхнённа сказаў: „Дзіцятка нарадзілася нам! Сын дадзены нам! Імя ЯГО: Дзіўны Раднік, Бог Моцны, Айцец вечнасьці, Князь Міру-Супакою" (Іс. 9, 6).

Гэтае прароцтва Ісайі расчыняе нам сэнс Нараджэньня Хрыстовага. Таму вось сьвята гэтае ня ёсьць сьвятам ужо закончанага чыну, а сьвятам надзеі на радаснае і шчасьлівае жыцьцё, як і апавясьцілі пра гэта Ангелы ў ціхую Сьветлую ноч у Бэтлеэме: „Слава ў вышынях Богу, і на зямлі мір, між людзей дабраволеньне".

Вось гэтага Божага Міру-Супакою мы і жадаем усім вам у часе Сьвятых Дзён **Нараджэньня Хрыстовага.** Няхай у сэрцах і душах нашых гучаць у гэтыя слаўныя дні словы Ангелаў сьвятых, як натхнёная гармонія Нябёсаў, як сьвятло Зоркі Бэтлеэмскае, як асьвячаючая нас Ласка Божая, якая прыносіць нам запраўдны супакой, задаваленьне, радасьць незямную. І няхай гэтая радасьць стала прабывае з намі, і робіць нашае жыцьцё сьвятым, дзейным, а кожны Новы Год адкрывае нам новыя крыніцы шчасьця. А Нованароджаны Хрыстос, Бог і Збаўца наш, падаруе гэты Свой Мір-Супакой і Ласку нам і нашай Багалюбнай Радзіме, бо толькі Ён можа засудзіць на загібель нашых панявольнікаў, і па веры нашай падаруе свабоду Сваю нашай любай Маці-Беларусі.

Няхай радасьць гэтага Вялікага Сьвята напоўніць нашыя сэрцы ды яшчэ цясьней аб'яднае нас усіх для пашырэньня Божае Славы сярод нашага народу, які заўсёды прагне пэўнасьці царкоўна-рэлігійнага і культурна-нацыянальнага жыцьця, захоўваючы і шануючы сваю мэлёдыйную беларускую мову, цудоўныя песьні, прыгожыя традыцыі і звычаі. Такая праца карыснай будзе і для нашае роднае Беларускае Аўтакефальнае Царквы.

У нашай грамадзе нам асабліва патрэбен духовы супакой і братняя згода. Толькі любоўю і цёплымі суадносінамі можна спыніць адыход ад нас нашае моладзі. У тым грамадстве, дзе моладзь адчувае сябе духова задаволенаю, яна бярэ ўдзел у грамадзкай працы, а калі ня мае рэлігійнага ўзгадаваньня, хутка асымілюецца. Устрымаць-жа моладзь ад асыміляцыі можа толькі ўзгадаваўчая нацыянальная праца, нацыянальная царква і нацыянальныя арганізацыі.

Таму з любоўю да Нованароджанага Хрыста Бога нашага ўсім нам неабходна аб'яднацца ў сваёй Роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве з тою любоўю, зь якою Хрыстос з неба зыйшоў, каб ахінуць нас сваім Міласэрдзем.

З гэткімі думкамі й разважаньнямі вітаем Вас, Усячэснае Духавенства, Багалюбных вернікаў і ўвесь Беларускі Народ з Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага і з Новым Годам!



*Высокадастойных Уладыкаў нашых*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,*
*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*
*Дастойнае Сьвятарства і ўвесь клер царкоўны, Брацтвы, Сястрыцтвы і Грамадзкія Установы, Арганізацыі Моладзі нашай, усіх вернікаў Сьв. БАПЦарквы і ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне і на чужыне*
*Віншуем*

З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ
*і з НОВЫМ — 1980 — ГОДАМ.*

*Рада БАПЦарквы*

З Нараджэньнем Хрыстовым
і з Новым — 1980 — Годам
Віншуем
Усіх Братоў і Сёстраў у Хрысьце
і шлём найшчырэйшыя пажаданьні здароўя
і радаснага жыцьця.

**Мітрафорны Пратаерэй а. Васіль і Матушка Марыя Кендыш**

**Сястрыцу Яніну Каханоўскую,** супрацоўніцу „Голасу Царквы" вітаем з **Нараджэньнем Хрыстовым і з 70-лецьцем Ейнага жыцьця,** жадаем добрага здароўя і ўсяго добрага ў жыцьці.

**Рэдакцыя „Голасу Царквы"**

Ласка і супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца і лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі цяпер, усячасна і павек вякоў. Амін.

З Ласкі Божае

Пакорны ў Богу ✠ **Мітрапаліт Андрэй**
Пакорны ў Богу ✠ **Архіепіскап Мікалай**

Каляды
Лета Божага 1979

# ЕВАНГЕЛЬЛЕ ЛУКАША

1(1-49, 56) 2(1-7)

Быў у днёх Ірада, караля Юдэйскага, ерэй адзін, з дзённае чаргі Авія, на імя Захары, і жана яго з дачок Ааронавых, а імя яе Альжбета. Былі яны абое справядлівыя прад Богам, беззаганна трымаючыся прыказаньняў і законаў Гасподніх. І ня было ў іх дзяцей, бо Альжбета была бясплоднай, і абое былі паджылыя ў гадох сваіх. Калі-ж ён у парадку чаргі свае служыў прад Богам, выпала яму, паводля ўкладу сьвятарскага увайці ў сьвятыню Гасподнюю кадзіць. А ўсё мноства народу ў часе каджэньня малілася вонках. І зьявіўся яму Ангел Гасподні, стоячы з правага боку кадзільнага ахвярніка. Захары, убачыўшы яго, сумеўся, і страх агарнуў яго. Ангел-жа сказаў яму: — ня бойся, Захары, бо выслухана малітва твая, і жана твая Альжбета народзіць табе сына, і дасі яму імя Ян. І будзе табе радасьць і ўцеха, і шматлікія ўзрадуюцца з нараджэньня яго. Бо ён будзе вялікі прад Госпадам, ня будзе піць віна і пітва хмельнага, і Духам Сьвятым супоўніцца яшчэ ў улоньні маці свае. І лічных сыноў ізраэлевых прыверне да Госпада Бога іхнага. І прадстане прад Ім у духу і сіле Ільлі, каб прывярнуць сэрцы бацькоў да дзяцей, і недаверкаў да мудрасьці праведнікаў, каб паставіць прад Госпадам народ удасканалены. І сказаў Захары Ангелу: — па чым я пазнаю гэта? бо я ўжо стары, і жана мая ў гадох паджылых. І адказаў яму Ангел, прамовіўшы: — Я, Габрыель, прад Богам пастаўлены, і пасланы гаварыць з табою і абвесьціць табе гэтую дабравесьць. Вось-жа ты анямееш і ня будзеш магчы гаварыць аж да дня, у якім гэта станецца, за тое, што ты не паверыў словам маім, якія збудуцца ў часе сваім. — Тымчасам народ чакаў Захарыя і дзівіўся, што ён марудзіць у храме. Калі-ж ён выйшаў, то ня мог гаварыць да іх; і зразумелі, што бачыў прывід у храме, а ён толькі паказваў на мігі і застаўся нямым. А калі скончыліся дні службы ягонае, вярнуўся ў дом свой.

Па тых днёх зачала Альжбета, жана яго, і таілася пяць месяцаў і гаварыла: — так учыніў мне Госпад у дні гэтыя, калі ўважыў на мяне, каб зьняць з мяне ганьбу між людзьмі.

На шостым-жа месяцы пасланы быў Ангел Габрыэль ад Бога ў места Галілейскае, званае Назарэт, да Дзевы, заручанай з мужам, на імя Язэп, з дому Давыдавага, а імя Дзевы Марыя. І, увайшоўшы да яе, Ангел прамовіў: — радуйся, уласкавёная! Госпад з табою, дабраславёна ты між жанчын. — Яна-ж, убачыўшы яго, затрывожылася ад слоў ягоных і разважала, што-ж гэта за прывітаньне такое? — І сказаў ёй Ангел: — ня бойся, Марыя, бо здабыла ты ласку ў Бога. І вось зачнеш у ўлоньні і народзіш Сына і дасі Яму імя Ісус. Ён будзе Вялікім і Сынам Найвышэйшага назавецца; і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давыда, айца Ягонага. І ўладарыць будзе над домам Якубавым павек; і ўладарству Яго ня будзе канца. Марыя-ж сказала Ангелу: — як-жа гэта станецца, калі я мужа ня знаю? І сказаў Ангел у адказ: — Дух Сьвяты найдзе на Цябе і Сіла Найвышэйшага ахіне Цябе, таму і народжанае Сьвятое Сынам Божым назавецца. Вось і Альжбета, сваячка твая, называная няплоднай, і яна зачала сына на старасьці сваёй, і гэта ўжо шосты месяц у яе. Бо ў Бога не зьняважыцца ніводнае слова. І сказала Марыя: — я слуга Гасподняя, няхай станецца мне подля слова твайго; і адыйшоў ад яе Ангел.

І вось у дні тыя Марыя, устаўшы, сьпешна пайшла ў горную краіну ў места Юдзіна. І ўвайшла ў дом Захарыя і вітала Альжбету. І сталася, калі пачула Альжбета вітаньне Марыіна, узыгралася дзіцятка ў улоньні яе; і пранялася Альжбета Духам Сьвятым. І ускліклула моцным голасам, прамовіўшы: — дабраславёна Ты ў жаноцтве, і дабраславёны плод улоньня Твайго. І скуль-жа мне гэта, што Маці Госпада майго прыйшла да мяне. Бо калі голас вітаньня Твайго дайшоў да вушэй маіх, радасна ўзыграла дзіцятка у ўлоньні маім. І шчасьлывая Тая, якая ўверыла, бо зьдзеецца Ёй абяцанае ад Госпада. І прамовіла Марыя:

— Вялічае душа Мая Госпада. І ўзрадаваўся дух Мой у Богу Спасе Маім; што ўзглянуў Ён на пакорнасьць слугі Свае; і з часу гэтага Уласкавёнай будуць зваць Мяне ўсе роды. Бо велічнае ўчыніў Мне Магутны, і Сьвятое Імя Яго . . .

Прабыла-ж Марыя з ёю блізу тры месяцы і вярнулася ў дом свой.

Дзеялася-ж у дні тыя: выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па усей зямлі. Гэтае сьпісаньне было першае ў часе гаспадараньня Кірынея ў Сырыі. І пайшлі запісвацца ўсе, кажны ў сваё места. Пайшоў і Язэп з Галілеі, з места Назарэту ў Юдэю ў места давыдава, званае Бэтлеэм, бо ён быў з дому і роду Давыдавага, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім жаною, якая была цяжарнай. І сталася, калі яны былі там, надышоў дзень, у якім прыйшла пара Ёй радзіць. І парадзіла Сына Свайго Першароднага, і спавіла Яго, і палажыла Яго ў ясьлях, бо ня стала ім месца ў гасподзе.

**ПАДЗЯКА**

Гэтым выказваю шчырую падзяку для Сястры Іры Сьмірноў-Каляда, за ейнае кіравецтва царкоўным хорам у часе адсутнасьці бр. Калошы, і асабліва за аказаную мне вялікую дапамогу ў часе трохгодняе мае хваробы, як і ўсім тым, якія да яе звярачаліся ў справе помачы.

**Мітрапаліт Андрэй**

## ХРЫШЧЭНЬНЕ ГОСПАДА БОГА І СПАСА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

Зьяўленьне Госпада Ісуса Хрыста на Йардане было паваротным мамэнтам у Ягоным жыцьці на зямлі. Да трыццаці год Ён жыў няведамым. У евангельлі ўспамінаецца толькі пра абставіны Раджэньня Хрыстовага і пра бліжэйшыя да таго часу здарэньні, а далей абмяжоўваецца толькі словамі: „Дзіцятка-ж узрастала і ўзмацоўвалася духам, і поўнілася мудрасьцю, і Ласка Божая была на Ім" (Лук. 2, 40). Пазьней успамінаецца толькі адно здарэньне, калі Ісусу было 12 год, калі ён у Ерусаліме адлучыўся ад бацькоў ды ў храме сядзеў сярод настаўнікаў, якія слухаючы Яго, дзівіліся з розуму і адказаў Яго (Лук. 2, 47). А вярнуўшыся ў Назарэт Ён узрастаў у мудрасьці і ў сталасьці ды ў Ласцы Бога і людзей. (Лук 2, 52).

Калі-ж пралунаў прарочы голас Яна Хрысьціцеля ў юдэйскай пустыні, Ісус прышоў да Яна, які заклікаў людзей да каяньня, ды хрысьціў іх у рэчцы Йардане. Сярод людзей, якія хрысьціліся, стаяў нікому ня ведамы, нікім не заўважаны Ісус. Ян тады яшчэ ня ведаў Ісуса, але прасякнуты сваім прарочым духам зразумеў, што гэта і ёсьць Той, у Каторага ён „недастойны, нахіліўшыся, разьвязаць рамень абутку Ягонага". (Мар. 1, 7). Таму ён сумеўся: „мне трэба хрысьціцца ў Цябе, а Ты прыходзіш да мяне" (Мацьв. 3, 14).

Запраўды Ісус Хрыстос не патрабаваў хрысьціцца, бо быў бязгрэшным, але Яму належала выканаць усякую праўду, падобна таму, як і раней таго Ён прыняў абразаньне.

„Ня думайце, што Я прыйшоў парушыць закон ці прарокаў; не парушыць прыйшоў Я, а выпаўніць" (Мацьв. 5, 17). Так і апостал Павал гаворыць: „Ён панізіў Сябе Самога, прыняўшы вобраз слугі, стаўшы падобным да чалавекаў, і з выгляду стаў, як чалавек, стаўся пакорным і паслухмяным аж да сьмерці, сьмерці крыжовай". (Да Піліпянаў 2, 7-8). А таму разам з іншымі прыйшоў хрысьціцца. Ян падпарадкаваўся словам Ісуса і ахрысьціў Яго... І адразу-ж выявілася, што тут адкрылася вялікая тайна. Раптам адчыніліся нябёсы, і адтуль зыйшоў ў выглядзе голуба Дух Божы на Ісуса. І вось з неба пачуўся голас:

„Гэта ёсьць Сын Мой улюбёны, у Ім Мае дабраволеньне". Цяпер Яну стала зразумелым, Хто гэта быў, Хто прыйшоў да яго з Назарэту Галілейскага. „Я ня ведаў Яго" — гаварыў потым Ян, — але Той, Хто паслаў Мяне хрысьціць вадою, Той сказаў мне: — калі ўбачыш, на каго зыйходзіць Дух Сьвяты і застаецца на Ім, гэта Той, Хто хрысьціць Духам Сьвятым. І я бачыў і засьветчыў, што гэта ёсьць Сын Божы (Ян. 1, 33-34)" І убачыўшы Ісуса, ідучы, ён сказаў: — вось Агнец Божы (Ян. 1-36).



Такім спосабам у часе хрышчэньня Хрыста выразна для чалавека была выяўлена тайна Сьвятое Тройцы: Айцец гаварыў, Сын Ісус Хрыстос хрысьціўся, а Дух Сьвяты, Як голуб, зыйшоў на Сына Божага. У імя Сьвятое Тройцы пры адзінстве Боскасьці й мы, хрысьціяне, прымаем сьв. хрышчэньне, выконваючы загад Ісуса Хрыста, які сказаў сваім вучням: „Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына і Сьвятога Духа (Мацьв. 28, 19). Тут належыць адзначыць, што Хрыстос не сказаў у множным ліку — імёны Айца, Сына, і Сьвятога Духа, а ў імя, дзеля таго, што Бог адзін у непадзельнай Тройцы, таму і імя ў Яго адно.

Ня маючы ні ў чым нястачы, Госпад Бог Сам дае ўсім жыцьцё і подых і ўсё (Дз. 17, 25). Так было і на Йардане, калі Хрыстос сваім прыкладам зрабіў пачатак вялікае Тайны Сьвятога Хрышчэньня, якое быццам праз дзьверы ўводзіць верніка ў заснаваную праз Яго Царкву. І на нас цяпер у часе хрышчэньня зыйходзіць Дух Сьвяты, і мы цяпер чуем у евангельлі голас Айца Нябеснага.

Чыстым і сьвятым выйходзіць і цяпер чалавек з купелі хрышчэньня. Такім спосабам праз хрышчэньне паўтараецца як-бы новы творчы акт, бо грэшны чалавек атрымоўвае права назваць Бога Айцом сваім згодна жыватворчага ўсынаўленьня. Бо зьявілася ласка Божая, ратуючы ўсіх людзей. Нічога не перашкаджае нам, Браты і Сёстры, стоячы сёньня ў храме, уявіць сабе, што мы стаімо на берагох Йардана.

Дзень сьвята Богазьяўленьня папярэджваецца Сьвятым Вечарам, і адзначаецца Багаслужбамі, як перад Нараджэньнем Хрыстовым. Рана служыцца сьв. Літургія, пасьля яе бывае асьвячэньне вады. Гэты старадаўны абрад, спалучаны з хрысьціянскай традыцыяй з таінствам Эўхарыстыі. Царква прагалошвае сваю веру ў будучае перамяненьне ня толькі паасобнага чалавека, але і ўсяго створанага сьвету. Асьвячэньне вады паўтараецца і ў самы дзень хрышчэньня. Асьвячаная вада па-грэцку называецца „Агіасма", гэта значыць — Вялікая Сьвятыня. Пабожныя праваслаўныя людзі з павагаю п'юць асьвячоную ваду, і акрапляюць ёю сваё жыльлё і захоўваюць на працягу ўсяго году.

**Трапар Сьвята.**

Калі ў Йардане хрысьціўся Ты, Госпадзе, тройчнае зьявілася пакланеньне; бо голас Айцоўскі сьветчыў за Цябе, улюбёным Сынам Цябе называючы; і Дух у выглядзе галубіным пацьвярджаў словы вяшчаньня; зьвіўся Хрысьце Божа, і сьвет азарыў, слава Табе.

## МАЛІТВА
### да Прападобнай Ефрасіні, князёўны Полацкае

О, Прападобная і заўсёды памятная, усяхвальная Маці Ефрасіня, Ангеле ў целе, богавыбраная скарбніца Сьвятога Духа, Царквы Хрыстовае хвала і ўпрыгожаньне, манаствуючых слава, айчыне і аселі Тваей і ўсей краіне памочніца і абароньніца! Ты, як дрэва, у выцёку вод пасаджанае, плёнамі дабрадзеяньняў Тваіх і дабрачыннымі дарункамі Сьвятога Духа ўпрыгожаная, настаўніца ў чыне і слове, — выбраная, неспарочаная і добрая. Прыслухайся да нас, у малітве да цябе схіленых і прызываючых імя Твае, бо маеш послух у Госпада. Папрасі нам посьпеху у жыцьці дабрадзейным, апаві сэрцы нашыя вераю, надзеяй і любоўю і страхам Божым. Падай нам помач у бедах і скрухах нашых, і як мела апеку за жыцьця Твайго над аселяй Тваей і над інакінямі, так і сёньня пасьпяшайся паспрыяць нам у ўсякім дабрадзеяньні, і аселю Тваю акрый супакоем і абарані ад ворагаў відомых і нявідомых, каб разьвівалася і цьвіла ў дабрачыннасьці. Усьцеражы нас ад усякага гвалту і ўціску, ад лютых хваробаў і ад гвалтоўнай сьмерці, і прывядзі нас да запраўднага пакаяньня пры адыйходзе з гэтага сьвету. Выпрасі нам у Госпада Бога скон спакойны, не пакутны і не саромны, Сьвятых Тайнаў прычастны, і правядзі нас праз пакуты спакушальныя, каб не схапілі нас мучыцелі злосныя за грахі нашыя, але каб Тваім заступніцтвам і ўспамогаю змаглі ў забясьпечаньні прайсьці спакусы паветраныя і здабыць міласьць і прадстаць неасудна прад страшным прастолам, і на страшным судзілішчы ўдастоіцца стаць па правіцы праведнага Судзьдзі, і насьлядаваць часьць праведнікаў. Так, Гаспося, усячэсная Маці Прападобная Ефрасіня, памажы нам малітвамі тваімі: аберажы нас і ахавай ад усякае спакусы варожае, каб удастоіцца нам прайсьці час жыцьця гэтага непамыльна і збавеньне дастаць малітвамі тваімі да Хрыста Госпада, Яго-ж і ўдастоімся апяваць і славасловіць з безначальным Айцом і Сьвятым Духам павек вякоў. Амін.

З акафісту Прападобнай.

Трапар, тон 4.

Дванаццацілетняя, насьлядуючы дванаццацілетняму Хрысту, зьявіўшаму ў Сьвяцілішчы Славу Божую, пакрочыла Ты, Ефрасіня, славу часовую і зямнога абручальніка пакінуўшы і ўсё сьвецкае занядбаўшы, найпрыгажэйшаму за ўсіх Хрысту сябе унявесьціла Ты. Крыж узяўшы, шляхам анельскага жыцьця праступаючы і многіх да Яго настаўляючы, у дабравоннасьці сьвету ў нябесны палац увайшла Ты, гдзе-ж і малі, Яго-ж узьлюбіла Ты, за шануючых дабрачэсна памяць Тваю.



## ЮБІЛЕЙНАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЭКЗАРХА КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКАГА ПАТРЫЯРХА АРХІЕПІСКАПА ЯКОВАСА.

Урачыстасьць сьвяткаваньня адбылася 1-га красавіка сёлета ў гонар дваццацілецьця Архіепіскапа Яковаса, як Экзарха рэлігійнага жыцьця ў Амэрыцы. Сьвяткаваньне распачалося Багаслужбаю ў Катэдральным Саборы ў Нью Ёрку.

Адразу пасьля сьв. Літургіі быў адслужаны малебен за здароўе юбілянта. Перад малебнам Кардынал Кук выгаласіў прывітальнае казаньне.

У экуменічных малітвах прымалі ўдзел — Епіскап Ян Марцін ад Карпатарускае Царквы, які прачытаў частку 91-га псальму, а Андр'ю Юнг, былы Амэрыканскі пасол у Аб'едnaных Нацыях, чытаньне гэтага псальму закончыў. Старшыня лютаранскае Царквы ў Амэрыцы д-р Джэймс Крумлей, прачытаў 92 псальм. Рабін Марк Танэнбаўм чытаў 128-мы псальм. Пасьля іх чыталі некалькі псальмаў прадстаўнікі Нацыянальнае Рады з Сусьветнага Аб'еднаньне Цэркваў. На сьвяткаваньні прысутнічаў сэрбскі Епіскап Хрыстофор і мноства духавенства.

Пасьля малітваў удзельнікі ўрачыстасьці перайшлі ў гатэль Плаза, дзе ў гонар Высокадастойнага Архіепіскапа Яковаса адбыўся абед, на якім выказваліся прывітальныя прамовы; прамоўцы высока ацэньвалі дзейнасьць юбілянта.

Ушанавалі юбілей Экзарха Яковаса і шматлікія прадстаўнікі ад Амэрыканскага Кангрэсу і дыплёматычнага корпусу ды Губэрнатар і Майор гораду Нью Ёрку.

Прабег урачыстасьці дакладна апісаны ў воргане Грэцкае Архіепіскопіі „Ортодокс Обсэрвэр" з дня 28 сакавіка, дзе былі зьмешчаны артыкулы прысьвечаныя заслугам Экзарха Яковаса.

Ад імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы была выслана Высокадастойнаму юбілянту прывітальная тэлеграма, на якую на імя Мітрапаліта Андрэя была атрымана ад Архіепіскапа Яковаса падзяка наступнага зьместу:

Высока Дастойны Мітрапаліт Андрэй.

Дарагі Браце!

Вашыя малітвы, зблізка і здалёку, памаглі мне ў поўні адзначыць урачыстасьці адсьвяткаваньня майго дваццацілецьця з ўсёй уласьцівай ім духовай і пачуцьцёвай напружанасьцяй.

Увайходзячы ў мой 21-шы год, я ізноў-жа ўпрашаю Вашых малітваў і помачы, каб мы ўсе маглі служыць нашай Сьвятой Праваслаўнай Царкве з запраўдным хрысьціянскім забавязаньнем і адданасьцяй.

✠ Архіепіскап Яковос

## ВЯЛІКОДНЫЯ ВІТАНЬНІ

**Уладыкі Мітрапаліта Андрэя, духавенства й вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы атрыманы:**

Ад Усяленскага Патрыярха Дэмэтрыёса;
Ад Нікалаоса VI Папы Патрыярха Александрыйскага;
Ад Патрыярха Бенэдыкта Ерусалімскага;
Ад Сакратара Усяленскага Патрыярхату Мітрапаліта Васіліюса;
Ад Архіепіскапа Яковаса, Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Амэрыку;
Ад Архіепіскапа Хрызастома Кіпрынскага;
Ад Мітрапаліта Мсьціслава, Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША;
Ад Архіепіскапа Атэнагора, Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Вяліка-Брытанію;
Ад Епіскапа Яна Р. Марціна, Карпатарускае Праваслаўнае Царквы ў ЗША;
Ад Епіскапа Ірынэя, Сэрбскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША.

---

## ЭКЗАРХ УСЯЛЕНСКАГА ПАТРЫЯРХА АРХІЕПІСКАП АТЭНАГОРАС II УПАКОІЎСЯ

Дня 9-га верасьня сёлета на 70-тым годзе жыцьця памёр у Лёндане (Англія) Экзарх Канстантынопальскага Ўсяленскага Патрыярха Архіепіскап Атэнагорас II (Кокінакіс). Гэта быў высокасьвечаны Праваслаўны Гэрарх, які раней выконваў функцыю Мітрапаліта Грэцкае Царквы ў Канадзе, дзе часта прымаў удзел у Багаслужбах супольна зь іншым праваслаўным нацыянальным духавенствам.

Займаючы гэткае высокае становішча Экзарха ён прыняў на аўдыенцыю сьвятара БАПЦарквы а. Яна Пякарскага, і ў часе доўгае гутаркі цікавіўся станам БАПЦарквы на эміграцыі, і даведаўшыся пра існаваньне Беларускае Праваслаўнае Мітраполіі, суліў а. Яну дабрачэснага і памыснага служэньня Богу і людзям.

---

З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ

І З НОВЫМ ШЧАСЬЛІВЫМ — 1980 — ГОДАМ

— віншуем —

Супрацоўнікаў, Прыхільнікаў і Прыяцеляў нашых

і ўсіх вернікаў БАПЦарквы.

**Рэдакцыя „Голасу Царквы"**







## З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ БАПЦАРКВЫ Ў АЎСТРАЛІІ

### ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ЦАРКВЕ СЬВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Сёлета Парафія Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла сьвяткавала дзень сваіх Патронаў 15-га ліпеня. У нядзелю зрана пачалі званіць званы з папоўненай званіцы — склікаць вернікаў на малітву. Перад гадзінай дзясятай пачалі прыбываць вернікі, і незабавам царква напоўнілася людзьмі.

Айцец Аўген распачаў Божую Службу ў духоўнай узьнёсласьці пры радасным, вясёлым настроі вернікаў, якія цешыліся з падноўленай сваё сьвятыні, з падноўленай і ўпрыгожанай званіцы ды і з свайго маладога і дбалага сьвятара Айца Аўгена. Царкоўны хор пад кіраўніцтвам брата Міхала Бурноса зладжана й паважна выконваў царкоўныя сьпевы. Пасьля заканчэньня Божае Службы Айцец Аўген прывітаў усіх тых, чыё імя Пётра і Павал, жадаючы ім даўгога і радаснага жыцьця. Царкоўны хор прасьпяваў Многія Леты імяніньнікам, нашаму Мітрапаліту Андрэю, Архіепіскапу Мікалаю ды ўсяму сьвятарству Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы і ўсім парафіянам.

Па заканчэньні Божае Службы Айцец Аўген запрасіў усіх у залю на супольны абед. Прысутных на абедзе было сто дзесяць асоб. Калі ўсе занялі свае месцы, Айцец Аўген пасьвяціў ежу, і пачалася застольная бяседа. Праз гадзіну часу нашая танцавальная група ў складзе: Паўлік Калясьнiковіч, Антон Яновіч, Канстантын Бічанін, Андрэй Бічанін, Ганна Калясьніковіч, Наташа Якша і Соня Якша — выканалі Лявоніху. Соня Якша, Ніна Якша, Аня Калясьніковіч пры дапамозе М. Кандрусіка прасьпявалі улюбёную песьню — „Люблю наш край". А Віктар Зелянеўскі расказаў пра бычка-трацячка. Усе парафіяне білі ў ладкі ды крычалі — больш! Так, каля сёмай гадзіны ўвечары пачалі разыходзіцца.

### ГАДАВІНА СЛУЖЭНЬНЯ АЙЦА АЎГЕНА

У нядзелю 29-га ліпеня мінуў год ад высьвячэньня ў ерэі нашага новага сьвятара Айца Аўгена.

Парафіяне Парафіі Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляйдзе захацелі дзень гэты правесьці ўрачыста. Дзеля гэтага Сястрыцтва пры Парафіі — а сястрыцы нашыя добрыя гаспадыні — парупілася прыгатаваць добры абед. І гэта было зроблена, каб Айцец Аўген і ня ведаў.

А 10-ай гадзіне царкву пачалі запаўняць вернікі, і пачалася ўрачыстая Багаслужба. Вельмі прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам брата Міхала. У канцы Літургіі прапялі Айцу Аўгену Многія Леты.

Тады ўсе былі запрошаныя ў царкоўную залю, дзе сястрыцы прыгатавалі багатыя сталы да агульнае бяседы. Прыйшоўшы ў залю а. Аўген быў зьдзіўлены з гэтае неспадзеўкі. А калі ўсе селі за сталы, старшыня Кастусь Станкевіч папрасіў а. Аўгена пасьвяціць ежу, а тады запрасіў усіх напоўніць чаркі — хто што любіць — хоць гарэлкаю, а хоць іншым пітвом. Ды, прапяяўшы Айцу Аўгену і Матульцы Марыі Многія Леты, смакавіта выпілі за іх здароўе. Брат Парфіры Трысмакоў пажадаў добрага здароўя ды шчасьлівага жыцьця на доўгія годы.

Айцец Аўген у сваёй прамове дзякаваў усім парафіянам за „так добрую і мілую гасьціну". Гэта для мяне, — казаў ён, — вялікая ўцеха і задаваленьне, што парафіяне дбаюць пра мяне. Быў гэта цяжкі год, але мы яго прайшлі з Божаю дапамогаю, і прашу не забываць і наведваць царкву штонядзелі і на кажныя Божыя Службы. Будзем разам маліцца да Ўсе-

магутнага Бога нашага за здароўе і дабрачыннасьць усіх Беларусаў на выгнаньні і на Бацькаўшчыне. Другі год ужо будзе лягчэй, але яшчэ трэба шмат працы ўлажыць, каб давесьці Царкву нашую да належнага стану".

Калі ўсе пачаставаліся, пачалі сьпяваць беларускія народныя песьні. Заля была напоўненая вясёлым гоманам. Дадому не сьпяшаліся,

Гэтак працягвалася да восьмае гадзіны ўвечары. У кажнага застаўся добры ўспамін, і кажны цешыўся, што маем маладога і рупнага сьвятара Айца Аўгена і Матульку Марыю. **В. Акавіты**

## З АРХІВУ БУДОВЫ ЦАРКВЫ СЬВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляйдзе зьяўляецца першаю гістарычнаю памяткаю пабыту беларускіх выгнанцаў на чужыне.

З архіўных дакумэнтаў будовы яе даведваемся, што галоўная заслуга ў будове царквы належыць айцу Пратаерэю Міхаілу Шчурко. Ніхто іншы, як ён, з падтрымкаю некаторых вернікаў, прыехаўшы ў Аўстралію, зарганізаваў парафію, і распачаў зьбіраць сьродкі на пабудову Беларускае Сьвятыні. Не зважаючы на цяжкую фізычную працу для існаваньня, ён не шкадаваў сваіх высілкаў, зьбіраючы ахвяры на будову, зьвярнуцца ня толькі да сваіх вернікаў, але й да існуючых фірмаў у Адэляйдзе і ваколіцы. Просьба ягоная ня сталася голасам гукаючага ў пустыні, і будова царквы распачалася.

Дня 15 сьнежня 1960 году Архіепіскап Сяргей, у суслужэньні Мітрафорнага Пратаерэя Міхаіла Шчурко, асьвяціў плошчу пад будову царквы і паложаны быў чатырохкутны камень, асьвячаны сьв. вадою і памазаны сьв. Алеем.

Гэта была першая вялікая радасьць парафіянаў. Найбольшая-ж урачыстасьць адбылася дня 29-га сьнежня 1963 году, калі адбылося ўрачыстае асьвячэньне новазбудаванага храму. Апрача Архіепіскапа Сяргея ў пасьвячаньні бралі ўдзел: Епіскап Варлаам з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Прат. Міхаіл Шчурко, Прат. Аляксандар Кулакоўскі з Мэльбурну, Архімандрыт Даніла, Пратадыякан Савіцкі і а. Грыгоры Папас. Урачыстая Багаслужба моцна ўзрушыла сэрцы вернікаў Беларускага Народу. Пасьля чыну пасьвячаньня Храму настаяцель парафіі Прат. а. Міхаіл прачытаў лісту ахвярадаўцаў і будаўнікоў храму, на якой было запісана 260 асоб, якія злажылі сваю ахвяру на Дом Малітвы — Дом Айца Нябеснага, Бога нашага.

Так быў збудаваны Дом Малітвы на Славу Божую і радасьць усіх нас выгнанцаў з Роднага Краю.

„Сьвятыні Хрыстовае ніхто не павінен зьнішчыць, прадаваць, або замяняць на іншыя антырэлігійныя патрэбы. Храм Божы — гэта Дом Малітвы, павінен быць вечнаю сьвятыняй Хрыстовай. Храм Божы павінен пераходзіць наступнаму пакаленьню Беларускага Народу, каб у ім верныя маліліся Богу і прыпаміналі нашчадкам, якія прымусова пакінулі свой Родны Край, шукаючы свабоды веравызнаньня, дзе можна вольна ўзносіць малітвы да Бога". Гэткі запавет напісаны будаўнікамі Сьвятыні Хрыстовае для будучага пакаленьня Беларускім Праваслаўным вернікам,

Напісана ў часе пасьвячаньня Храму. Лета Божага 1963, сьнежня 29 дня.

З таго часу мінула ўжо 16 год. І калі параўнаем сучасны выгляд храму з пачатковым выглядам, то заўважым, што дзякуючы ініцыятыве Парафіяльнае Рады і ахвярнасьці вернікаў ды захадам Сястрыцтва Сьв.





**Царква Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляйдзе**



**Гурток вернікаў БАПЦарквы ў Адэляйдзе**

Ефрасіні Полацкай, выгляд храму моцна ўдасканалены, бо на працягу некалькіх год пабудаваны прытвор, вялікая заля на царкоўным пляцы, ды пастаўлены яшчэ на царкве 4-ры купалы, якія прываблiваюць сваёю прыгожасьцю ня толькі вернікаў, але й прыезных турыстаў.

**Аўстраліец**



**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

**КАНСЫСТОРЫЯ**

**З А К Л І К**

**да Беларусаў у Вольным Сьвеце аселеных.**

**Дарагія Браты і Сёстры!**

З Ласкі Божае і ахвярнасьці сьвятарства і вернікаў Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Вольным Сьвеце замацавалася і пашырае сваю дзейнасьць. Восем з нашых 13-ёх парафіяў маюць ужо свае добра ўладжаныя храмы, дзе адбываюцца Божыя Службы, і дзе маюць залі для царкоўных і грамадзкіх сходак і ўрачыстасьцяў. У іншых сямёх парафіях Божыя Службы адбываюцца ў нанятых дамох.

Цяпер вынікае неабходнасьць набыць месца на заснаваньне Асяродку БАПЦарквы, дзе была-б Галоўная сядзіба Кіраўніцтва і Ўладыкі Мітрапаліта а пры гэтым — канцылярыя Кансысторыі БАПЦ, архіў і бібліятэка.

Ужо ў 1977 годзе Рада БАПЦ прыняла пастанову пабудаваць адмысловы дом пры Парафіі Сьвятой Тройцы ў Дораты, штату Нью Джэрсі. Аднак, былі засьцярогі з увагі на аддаленасьць Дораты ад іншых нашых асяродкаў. Дзеля таго Рада БАПЦарквы на нарадзе 20-га траўня сёлета пераглядзела гэтую справу і пастанавіла шукаць месца на Асяродак БАПЦ у ваколіцах Нью Брансьвіку, штату Нью Джэрсі.

Рада БАПЦ уважае, што сьведамая беларуская эміграцыя, глыбей разумеючы важнасьць існаваньня свае нацыянальнае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, цяпер і ў будучыні, можа і павінна здабыцца на большую ахвярнасьць, каб Галоўны Асяродак БАПЦ быў створаны.

Цяпер затаргаваны аб'ект у Паўночным Нью Брансвіку: там пляц на тры з паловай акры часткава залесенага грунту; на ім у добрым стане дом, купальны басэін і гараж. Прошаная цана 125 тысячаў даляраў. Гэтае месца надаецца для плянаванага Асяродку. Яго ўпадабалі нашыя Ўладыкі, Камісія, Кансысторыя і некаторыя вернікі з іншых парафіяў.

Ахвярадаўцам паважнейшых удзелаў будуць выданы адмысловыя граматы; імёны удзельнікаў будуць зьмешчаны на памятнай дошцы Асяродку.

На наш заклік першай адгукнулася Парафія Сьвятога Духа ў Дэтройце, перасылаючы сваю ахвяру 10 тысячаў даляраў на Фонд куплі.

Кансысторыя, як выканаўчы чыньнік БАПЦ, зварачаецца да Вас з ласкавай просьбай палажыць сваю цагліну ў будову гэтага Асяродку.

Просім прыняць, Дарагія Браты і Сёстры нашую шчырую падзяку за Вашую ахвяру на гэтую сьвятую справу.

Вашую ахвяру просім перасылаць чэкам Скарбніку Кансысторыі на адрыс:

Mr. Mikolaj Wojtenko, 78 Emerson Road, Somerset, N. J. 08873.

**Мітр. Прат. Васіль Кендыш**
**Старшыня Камітэту**







**ХРОНІКА ПАРАФІІ БАПЦ Ў МЭЛЬБУРНЕ**

1. На 73-м годзе жыцьця (дня 2 красавіка 1979 году) адыйшла ў вечнасьць Галена Ясіновіч. Сьв. Памяці Галена пакінула ў смутку дачку Ганну, сыноў ды ўнукаў. Галена была парафіянкаю ад самага заснаваньня Мэльбурнскай Парафіі БАПЦарквы, бесперапынна ўпрыгожвала царкоўныя Багаслужбы ўмелым сьпевам. Цела Галены пахаванае на беларускім могільніку. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар.

2. У Фаміную нядзелю, 29-4-1979 году, згодна з нашымі рэлігійнымі традыцыямі, пасьля Багаслужбы ў царкве, вернікі з настаяцелем паехалі на беларускі могільнік, каб памаліцца за ўпакаеньне душ адыйшоўшых у вечнасьць суродзічаў. Пры супольным памятніку была адслужана Паніхіда і дакананы чын пасьвячаньня магілкаў супачыўшых суродзічаў.

3. 3-6-1979 г. а. Аляксандар ахрысьціў Антона, сына Уладзімера і Ірэны Шэўчук. Няхай Антон будзе здаровы ды хутка расьце на пацеху бацьком, дзеду і бабкам.

4. 7-5-1979 г., пасьля працяглага недамаганьня, адыйшоў у вечнасьць Сьв. Памяці Пётра Шалак. Цела нябожчыка пахаванае на беларускім магільніку. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар.

5. 17-6-1979 г. Анатоль Карась і Маргарэта Петрэнко ўвайшлі ў сужэнства царкоўным шлюбам. На гэтую радасную ўрачыстасьць царкоўны будынак быў належна ўпрыгожаны жывымі кветкамі-букетамі. Узмоцнены, добра сасьпяваны хор пад кіравецтвам брата Аўгена мілагучнымі напевамі выклікаў духоўную ўзьнёсласьць сярод лічнай колькасьці вернікаў і гасьцей. Таінства шлюбу ўдзяліў а. Аляксандар. Навапабраным Анатолю і Маргарэце жадаем добрага здароўя ды радаснага сямейнага жыцьця на Многія Леты.

6. 14-7-1979 г. з ініцыятывы Сьвятовага Аб'еднаньня Цэркваў (аддзел у Аўстраліі) пры Мэльбурнскім унівэрсытэце адбыўся міжцаркоўны сэмінар, у якім прынялі ўдзел амаль усе ведамыя ў Мэльбурне хрысьціянскія Цэрквы ды большасьць харытатыўных арганізацыяў, ведама, з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных. Разглядаліся лічныя праблемы, павязаныя з рэлігійным жыцьцём і дзейнасьцю ў штодзённым жыцьці. Прынятыя пастановы, якія могуць паслужыць для дабра ня толькі паасобных рэлігійных адзінак, але і для агулу. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтаваў настаяцель а. Аляксандар.

7. 22-7-1979 г. у Мэльбурне, з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў, быў адслужаны экумэнічны малебен у Катэдры Сьвятога Патрыка. Суслужыла духавенства: Праваслаўнае, Р.-Каталіцкае і Лютэранскае цэркваў. Прысутнічала шмат людзей. Чыталіся малітвы на мовах паняволеных народаў. У беларускай мове малітву прачытала сястра Надзя. Малебен закончыўся дабраславенствам: Лютэранскага, Праваслаўнага і Р-Каталіцкага духавенства. Ад Праваслаўнага духавенства дабрасловіў настаяцель Мэльнбурскай Парафіі БАПЦарквы а. Аляксандар.

8. 19-8-1979 г. а. Аляксандар ахрысьціў Адама, сына Аляксандры і Юлі Сасноўскіх. Няхай Адам здаровенькі расьце і цешыць бацькоў.

9. 25-8-1979 г. царкоўным шлюбам увайшлі ў сужэнства Анатоль Рабчанка і Марыя Басарановіч. Марыя ад юнацкіх год — неад'емная служка Парафіі: сталая ўдзельніца царкоўнага хору, шчодрая памачніца Парафіі і Сястрыцтва. Маладому сужэнству Анатолю і Марыі складаем найлепшыя пажаданьні: цешыцца добрым здароўем, узаемнаю пашанаю, зразуменьнем ды шчасьлівым сямейным жыцьцём на Многія Леты.

10. 1-9-1979 г. Для адзначэньня „Дня Бацькі" Сястрыцтва пры Парафіі зладзіла Вясновую забаву. (У Аўстраліі вясна пачынаецца 1-га верасьня). Суродзічы і госьці лічным удзелам добра падтрымалі гэтую ідэю, і высілак Сястрыцтва даў добры вынік. Прысутныя на вечарыне засталіся здаволенымі з абслугі, а Сястрыцтва ,у сваю чаргу — задаволенае з добрага выніку. Пажадана было-б бачыць часьцей падобныя спробы і асягненьні.

11. 30-9-1979 г. А. Аляксандар ахрысьціў Мікалая, сына Уладзімера і Энн Усьцінаў. Няхай Мікалай хутка расьце на пацеху і радасьць бацьком, сваяком і ўсім людзям добрае волі. Дай Божа!

12. 12- 10-1979 г. Неспадзявана, на 76-м годзе свайго жыцьця адыйшла ў вечнасьць Ефрасіня Барсток. Сьв. пам. Ефрасіня самая першая спрычынілася да заснаваньня Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне. Не ашчаджалася і ў фізычных высілках. Сталая ўдзельніца царкоўнага хору. Ніколі не прамінала Багаслужбаў. Шчодрая памочніца ў Сястрыцтве. Ефрасіня пакінула ў смутку сына, дзьве дачкі і шэсьць унукаў. Вечная Памяць. Цела Ефрасіні пахаванае на Беларускім магільніку.

13. 13-10.1979 г., а. Аляксандар ахрысьціў Шэну, дачку Лідзіі і Ллойда Окслэй. Няхай Шэна здаровенькая расьце і цешыць бацькоў.

## ПРА „СЬВЯТЫЯ ПІСЬМЫ"

У падсавецкай газэце „Работніца і сялянка" № 8, 1979 год — зьмешчаны выказваньні аж дзевяцёх асоб пра „сьвятыя пісьмы".

Выглядае з гэтых выказваньняў, што „сьвятыя пісьмы" пачалі хадзіць па БССР ужо даўно, і хаджэньне гэтае ня спыняецца. Пісьмо пачынаецца словамі: „хлопчык дванаццаці гадоў убачыў на беразе мора Бога ў белай рызе".

„Што-ж сказаў хлопчыку Усявышні, які зьявіўся перад ім? Што людзі забыліся пра Бога і Сьвятога Духа, і таму хутка будзе суд. Ён „Усявышні будзе судзіць жывых і мертвых, і ня будзе відно сонца, і мора пакрыецца крывёю".

„Як бачыце, напісана далёка не бясхітрасна. Аўтарства ўстанавіць зараз немагчыма. Але па ўсім відаць, гэты чалавек добра ведаў ня толькі хрысьціянскія паданьні, Біблію, жыцьці сьвятых, але і псіхалёгію. І ня толькі верачых — псіхалёгію чалавека наагул...

„Радкі „сьвятога пісьма" — гэта „скажоныя" цытаты з Апакаліпсіса — новазапаветнай кнігі Адкрыцьця Йана Багаслова. Вядома-ж, намаляваны ў Апакаліпсісе малюнак уражае. Слабанэрвовы чалавек спалохаецца, гэта праўда. Але, аказваецца, ня ўсё так страшна, як думалася сьпярша. Трэба перапісаць пісьмо дзевяць разоў (у некаторых выпадках загадваецца зрабіць гэта дванаццаць разоў і разаслаць па дзевяці (дванаццаці) адрасох, і вы выратаваны.

„Каму-ж хочацца, каб на яго напала нявылечная хвароба! А якому хвораму ня хочацца стаць здаровым? І вось садзіцца чалавек і старанна перапісвае, захоўваючы памылкі арыгіналу, дадаючы свае.

„...Сорамна навет прызнацца ў такім (таму не называю прозьвішча, ведаю, што вы мяне асудзіце). Атрымаўшы „сьвятое пісьмо", я ня спала праз усю ноч, раніцай падушка была мокрая. Чаму, менавіта, мне яго паслалі? Напэўна камусьці стала вядома, што маё вясельле распалася. Я вырашыла, што трэба выканаць умову, і перапісала дзевяць разоў. Паслала сяброўкам, у якіх ня ўсё добра ў асабістым жыцьці.

(Выпіскі з вышэйпамянёнай газэты — Рэд.).

Гэтыя пісьмы траплялі і ў Сібір, куды ўжо нямала нагналі беларусаў.



Міхась Белямук

## З ЖЫЦЬЦЯ СЫМЕОНА ПОЛАЦКАГА

У сьнежані месяцы спаўняецца 350-лецьце нараджэньня Самуіла Пятроўскага-Сітняковіча. Імя Сымеона ён атрымаў, калі прыняў манаства, а прозьвішча — Полацкага — ад паходжаньня з Полаччыны. Нарадзіўся ён у 1629 годзе. Бацька ягоны Ямільян, праўдападобна, належаў да сярэдня-заможных полацкіх мяшчан і займаўся гандлем. Імёны маткі, братоў і сёстраў няведамыя. Бацькі спасьцераглі здольнасьці Самуіла да навукі, а таму вырашылі паслаць у брацкую праваслаўную школу пры Богаяўленскім манастыры, адчыненую ў 1633 годзе, дзякуючы стараньням і данацыям полацкага судзьдзі Сьцяпана Мірскага. Настаўнікамі ў школе былі Ф. Утчыцкі й І. Иеўлевіч, выхаванкі праваслаўнае Кіева-Магілянскае Калегіі. Паколькі яны былі літаратары, дык заўважылі ў юнака Самуіла здольнасьці да вершаскладаньня, а таму сталі падбадзёрваць яго складаць вершыкі. Гэтак, будучы Сымеон, вучачыся у брацкай школе й атрымоваючы неабходныя падставовыя веды, спрабаваў свае здольнасьці ў вершаскладаньні. Настаўнік Ігнат Иеўлевіч, ацэньваючы яго талент, пачаў угаворваць бацькоў, каб яны паслалі сына на вышэйшыя студыі ў Магілянскую Калегію. Паколькі ераманах Ігнат Иеўлевіч быў вучнем прафэсара рыторыкі й філязофіі епіскапа Сыльвэстра Косава, дык зусім праўдападобна, што ён зьвярнуўся да свайго былога апякуна, каб заапекаваўся ён юным палачанінам — паэтам. Бацькі пагадзіліся з парадай Ігната Иеўлевіча й паслалі адзінацацігадовага хлапчука ў Кіеў, здаючы ў апеку й выхаваньне епіскапу Сыльвэстру, прыблізна ў 1640 годзе.

Епіскап Сыльвэстар (Косаў) нарадзіўся ў Жыровіцах, каля Слоніма. Бацька ягоны Адам паходзіў з беларускае праваслаўнае шляхты. Сыльвэстар атрымаў вышэйшую асьвету у езуіцкіх калегіях і акадэміях: Віленскай, Люблінскай, Замойскіх, Олунецкай (Чэхія) і Венскай. Вярнуўшыся ў Вільню, ён прыняў манаства, і ня выключаная мажлівасьць, што пастрыг яго ігумен праваслаўнага Сьвятадухаўскага манастыра Лявонці Карповіч, ды нарок імя яму Сыльвэстар. Паколькі быў ён знаўца багаслоўя, рыторыкі, філязофіі й права, дык запрошаны быў праз архімандрыта Пячэрскага манастыра Пятра Магілу стаць прэфэктам рыторыкі ў школе Пячэрскага манастыра. У Кіеве пры Богаяўленскім манастыры была брацкая школа, якая адчыненая была дзякуючы данацыям 1615 году жонкі мазырскага маршалка Сьцяпана Лозкі — Гальшкі Гулевічанкі, таму адкрыцьцё школы ў Пячэрскім манастыры выклікала крытыку. У міжчасе Пятро Магіла стаў мітрапалітам, дык быў асягнуты кампраміс, — брацкая й пячэрская школы аб'ядналіся ў 1632 г., а два гады пазьней, ераманах Сыльвэстар Косаў стаў рэктарам Кіева-Магілянскае Калегіі.

Калі епіскап Язэп Бабрыковіч-Анхожскі памёр, дык беларускае духавенства і шляхта абралі ў 1635 годзе рэктара Сыльвэстра на епіскапа Аршанскага, Мсьціслаўскага й Магілеўскага. Ён, пасьля хіратоніі, вырашыў адведаць беларускія праваслаўныя парафіі, манастыры і брацтвы, каб ня толькі пазнаёміцца бліжэй з праблемамі, але зладзіць багаслоўскія курсы-сэмінары і дыспуты з іншаверцамі. Зразумела, што вуніяцкае духавенства занепакоілася такой візытацыяй праваслаўнага герарха, а калі ён прыехаў у Полаччыну, дзе сустрэты быў з вялікой пашанай народам, дык гэрархі вуніяцкае Царквы выслалі ганцоў у Варшаву, каб кароль прыказаў Сыльвэстру выехаць з Полаччыны і больш не прыяжджаць сюды і ў Віцебшчыну. Сумніву няма, што епіскап Сыльвэстар, адведваючы

Полацак у 1637 годзе, наведаў брацкую школу пры Богаяўленскім манастыры, каб пагутарыць з сваім вучнем Ігнатам Йеўлевічам, а таксама пазнаёміцца з праблемамі й посьпехамі брацкай праваслаўнай школы. Натуральна, што Ігнат Йеўлевіч прадстаўляў Уладыку больш здольных і таленавітых вучняў, і Сымеон быў, пэўна, паміж імі. Можна меркаваць, што епіскап Сыльвэстар прыабяцаў дзідаскалу Ігнату, што заапякуецца тымі полацкімі здальнейшымі, каторыя прыедуць здабыць вышэйшую асьвету ў Магілянскай Калегіі.

Епіскап Сыльвэстар быў замілаваным педагогам, таму ня гледзячы на архіпастырскія абавязкі, не пакідаў Калегіі, і калі прыехаў Самуіл Сітняковіч у Кіеў, дык епіскап Сыльвестар быў ня толькі настаўнікам яго, але апякуном, асабліва, калі пасьля кароткага часу вучань выявіў надзвычайнае замілаваньне да навукі і ўроджаны талент паэта. Натуральным ёсьць, што епіскап Сыльвэстар ганарыўся сваім земляком, яго таленавітасьцю ў вершаскладаньні, а таму паступова стаў знаёміць будучага Сымеона з Кіеўскім асяродзьдзем дзеячоў, навукоўцаў, літаратараў. Сымеон таксама цешыўся, што мае апякуном земляка епіскапа, прафэсара, які быў аўтарам „Патэрыкону"*), „Экзегетыкі" і „Дзідаскаліі", а таму Сымеонаў сьветапагляд, праўдападобна, сфармаваўся на абсэрвацыях і гутарках з епіскапам Сыльвэстрам. У той час моднай была панэгірычная паэзія, а паколькі Сымеонава гутарка станавілася паэзіяй, дык запрашаць пачалі ў госьці, каб паслухаць ягонае вершаскладаньне. Паступова ягонымі сябрамі сталі — І. Галятоўскі, І. Вялічкоўскі, Л. Барановіч, І. Гізель.

Навучаньне ў Калегіі трывала 7-8 год. Вывучалі тут мову й літаратуру стараславянскую, лацінскую й польскую, а таксама граматыку, дыялектыку, лёгіку, філязофію, рыторыку й піітыку ,і такім чынам Сымеон разьвіў сваё красамоўства. Зусім праўдападобна, што з нагоды заканчэньня студыяў і атрыманьня дыплёму, ды ведсткі, што апякун ягоны абраны мітрапалітам Кіеўскім, Сымеон напісаў паэму-пахвалу ўдзячнасьці „Акафіст Багародзіцы...", якая мае дату 1648 год. Можна меркаваць, што мітр. Сыльвэстар уплываў на Сымеона, каб ня спыняў студыяў, а падаўся да езуіцкіх акадэміяў, каб пазнаёміцца з езуіцкім мэтадам выкладаньня ды інтэрпрэтаваньня багаслоўя, філязофіі й кананічнага права. Сымеон паслухаў парады, і некалькі год студыяваў, праўдападобна, у Віленскай Акадэміі; ня выключана, што і ў іншай.

Родны горад, аднак, Сымеона вабіў, і ён вырашыў вярнуцца, каб стаць дзідаскалам брацкай школы пры Богаяўленскім манастыры. Бязумоўна, радасна спатыкалі яго былыя сябры, настаўнік-ігумен Ігнат, асабліва бацькі, сёстры, браты й блізкія родзічы. Цешыліся, бязумоўна, дзеці, што прыбывае малады настаўнік, выхаванак Магілянскае Калегіі, а самае галоўнае таленавіты паэт. Неўзабаве вучні брацкай школы даюць на сцэне драматычныя пастаноўкі, а сюжэты піша Сымеон.

Тымчасам на Полацак насоўвалася небясьпека. З усходу пасоўвалася маскоўская армія цара Аляксея Міхайлавіча; і Полацак 29 чэрвеня 1964 г. быў забраны. Пэдагагічная праца спыняецца. Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч у 1656 годзе прыймае манаства. Ігумен Ігнат Йеўлевіч пастрыгае яго й наракае яму імя Сымеона. Жыцьцё ў Полацку прыймае іншы характар і ў жыцьці Сымеона адбываюцца зьмены.

*) Патэрыкон — зборнік жыцьцяў сьв. айцоў. Экзэгетыка — талкаваньне важных тэкстаў; сьв. Пісаньня. Дзідаскалія — навука пра сакраманты; дзідаскал — настаўнік, прапаведнік.





# АДЫЙШЛІ Ў ВЕЧНАСЬЦЬ

**СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ**



**ТАДОРА ЯРАХОВІЧ**

У пятніцу 17-га жнівеня сёлета адыйшла на вечны супачынак адна з пабожных парафіянак сьв. памяці Тадора Яраховіч. Пра набожнасьць яе сьветчыць той факт, што ад самага пачатку зарганізаваньня Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, яна была прысутнаю на кажнай Багаслужбе, як у нядзелю, так і будзённыя дні, калі правілася Багаслужба. Яна шчыра малілася Богу за ўсіх сваіх жывых родзічаў, а асабліва ўзносіла шчырыя малітвы за свайго мужа і сына, якія былі схваченыя партызанамі й замучаны ў часе Другое сусьветнае вайны. Пакойная адзначалася лагодным характарам, была ў пашане ня толькі дачкі і зяця Пратадыякана Міхася, але і ўнукаў і ўсіх парафіянаў. Таму на паховінах яе прысутнічалі ня толькі блізкія родныя, але амаль усе парафіяне і знаёмыя.

Абрад паховінаў выканаў Уладыка Андрэй у асысьце Пратадыякана Міхася. Пахаваная на магільніку Рывэрсайд у Кліўлендзе. Лягла першаю на адведзенай частцы магільніку для Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Як у часе паховінаў, гэтак і ў саракавы дзень сьмерці на памінальнай вячэры прысутнічала ня толькі радня, але і значная колькасьць парафіянаў, якія з глыбокім жалем паміналі Яе сьветлую душу.

Няхай Ёй будзе лёгкаю вольная Амэрыканская зямелька.

**Вернік**

**Сьв. Пам.**



**Агрыпіна Яраховіч**

У аўторак 6-га лістапада 1979 году ў Кліўлендзе адыйшла на вечны супачынак Агрыпіна Яраховіч, пражыўшы 85 год свайго працавітага жыцьця.

Нарадзілася Агрыпіна 10 жнівеня 1894 году ў вёсцы Волька, Лунінецкага павету. Была патрыярхальнаю добраю маткаю, бабкаю і прабабкаю найбольшае сям'і ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Адзначалася вялікаю набожнасьцю, наведваючы кажную Багаслужбу. Перад сьмерцю прыняла Сьвятыя Тайны, і ў апошні мамэнт разлучэньне душы з целам Уладыка Андрэй прачытаў малітву на адыход душы.

У сераду 7-га лістапада і чацьвер 8-га лістапада ў бюры паховінаў Колодзея была адпраўлена Паніхіда за супакой Яе душы, а ў пятніцу 9-га лістапада ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці адпраўлена заўпакойная Багаслужба, пасьля чаго цела было адвезена на магільнік „Рывэрсайд" недалёка ад царквы, дзе і пахаваная ля свайго мужа Сымона Яраховіча, які памёр 14 год раней.

Як звычайна, пасьля паховінаў адбылася памінальная вячэра, якую прыгатавала сям'я пакойнае, на якой прымалі ўдзел ня толькі ўся лічная радня, але й вялікая колькасьць знаёмых і парафіянаў.

**Парафіянін**

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ДЗВАНЫ

Дня 21-га ліпеня, сёлета, адбыўся ўрачысты шлюб Віктара, сына Пратадыякана Міхася і Наталі Страпко, ды Алы Маталыцкай, дачкі Кастуся і Ады Маталыцкіх. Шлюб адбыўся ў Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Абрад шлюбу выканаў Мітрапаліт Андрэй у асысьце а. Максіма, Пратадыякана Міхася і Дыякана Яна. Прыгожае выкананьне шлюбу, цудоўны сьпеў хору, вясельнае і прыгожае ўбраньне, як маладых, так і шматколькаснае дружбы, усё гэта зрабіла вельмі прыемнае ўражаньне для прысутных, якімі быў перапоўнены Сабор.

Уладыка Андрэй шчырымі словамі прывітаў маладых, жадаючы ім доўгага і шчасьлівага жыцьця, дабраславячы іх сьвятымі іконамі.

Пасьля шлюбу маладыя з сваімі асыстэнтамі накіраваліся да фатаграфа, каб зрабіць прыгожую памятную здымку.

Вясельнае прыняцьце бацькі маладых прыгатавалі ў вялікай прыгожай залі, дзе пасьля вячэры моладзь весела забаўлялася аж да поўначы.

Маладыя-ж адразу пасьля заканчэньня шлюбнага чыну накіраваліся на лётнішча і адляцелі ў Гаваі ў шлюбную падарож.

Бацькі-ж маладых, памятаючы вясельную традыцыю на Бацькаўшчыне, ў нядзелю на аселішчы „Полацак" прыгатавелі яшчэ гойны абед для ўсіх прысутных.

На месцы тут будзе зазначыць, што абое маладыя сьведамыя Беларусы, якія наведвалі Беларускую Парафіяльную Сыботнюю школу і прымалі ўдзел ува ўсіх нацыянальных імпрэзах. Таму міла іх шчыра вітаць і ставіць у прыклад для іншых.

Шчасьць ім Божа ў будучым жыцьці.

***

Першага верасьня адбыўся другі шлюб, Робэрта Ліцыні, сына Яна Сыльвэстра і Гэлены Ліцыні, і Ніны Самойліч. Шлюб адбыўся а гадзіне 2-гой папаўдні ў Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Чын шлюбу ўдзяліў Уладыка Андрэй ў асысьце Пратадыякана Міхася Страпко. Маладая Ніна Самойліч праваслаўная і запісаная членам БАПЦарквы, а малады Робэрт Італьянец з паходжаньня, народжаны ўжо ў Амэрыцы. Хутка пасьля шлюбу новасужонкі выехалі ў другое месца — месца жыхарства.

**Парафіянін.**

## ШЛЮБ ВІКТАРА ВАСІЛЕЎСКАГА І АНДЖЭЛЫ-МАРЫІ БІЯНЧЫНІ

Шлюб адбыўся дня 17-га лістапада 1979 году ў Праваслаўным Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Чын шлюбу выканаў Высокапраасьвячэнны Уладыка Андрэй.

Малады Віктар, сын Анатоля й Галіны Васілеўскіх, паходжаньня беларускага. Маладая Анджэла Біянчыні ,дачушка Паўла і Вінэі — паходжаньня італьянскага. Абодва сужонкі нарадзіліся ў Амэрыцы. Бацькі Віктара і ўся сям'я належаць да Парафіі БАПЦарквы ў Кліўлендзе.

Пасьля шлюбу вясельнае прыняцьцё адбылося ў Грамадзкім цэнтры „Полацак" у Кліўлендзе. Шчодры абед быў прыгатаваны бацькамі маладых з дапамогаю радні і прыяцеляў сям'і Васілеўскіх. Пасьля вячэры пад гучную музыку адбылася вясельная забава і танцы да позьняе ночы.

***

Дня 24-га лістапада сёлета адбыўся шлюб Міхася Яраховіча, сына Янкі і Ганны Яраховіч, з Марыяй Токмэнко, дачкою Пятра і Гэртруды Токмэнко. Сям'я Яраховічаў ёсьць добра ведамая сярод беларусаў у Кліўлендзе, як адна з найбольшых беларускіх сем'яў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Маладая Марыя Токмэнко нарадзілася ў Амэрыцы, а таму ў царкве ў часе шлюбу сабралася шмат яе радні і знаёмых, якія вельмі цікавіліся выкананьнем і прыгожасьцю праваслаўнага шлюбу. Абрад шлюбу выканаў Уладыка Андрэй у суслужэньні Пратадыякана Міхася Страпко. Вясельнае прыняцьцё таксама адбылося ў грамадзкім беларускім цэнтры „Полацак". Пасьля вячэры распачаліся танцы да поўначы.

Па вясельлі маладыя накіруюцца на сталае месца пабыту ў Каліфорнію, дзе Міхась, як прафэсыйны шофэр, мае ўжо запэўненае месца кіраваньня гарадзкімі аўтабусамі.

**Х.**

# З БССР

## У „ГОЛАСЕ РАДЗІМЫ" ЗНОЎ „БАМ"

Артыкул „Дарога ў будучае", ужо іншага аўтара — Васіля Слушніка — зьмешчаны ў №№ 37 і 38-ым „Голасу Радзімы" за 1979 год. Ніжэй зьмяшчаюцца вынятки, у перакладзе з расейскае ў беларускую мову.

„Двойчы мне давялося пабываць на „БАМЕ", сваімі вачыма пабачыць размах грандыёзных прац. Удумайцеся ў цыфры. Траса пакрые расьцягласьць у 3.200 кілямэтраў, (журналісты Паўловіч гаварыў пра 4.341 клм. — рэд.), перасячэ сем труднадаступных горных хрыбтоў, пройдзе над такімі вялікшымі рэкамі, як Лена, Амур, Віцім, Сэлемджа, над Зейскім вадасховішчам. Мост цераз кажную з гэтых рэчак можна лічыць гонарам будаўнічага майстроўства.

„БАМ — гэта больш за 220 міліёнаў кубічных мэтраў выбранага грунту, блізу 3.500 штучных збудаваньняў, 30 кілямэтраў тунэляў, працы ў раёнах вечнай мерзлаты, у месцах, дзе высокая сэйсмічнасьць (зрухі зямлі) . . .

„Яшчэ суткі раней мы ніякава пачуваліся ў Менскім аэрапорце: на вуліцы 12 градусаў цяпла, а мы ў зімовых шапках. А тут і зімовая шапка і свэтэр пад палітонам — не збавеньне ад марозу, які з ветрыкам нам выдаваўся градусаў пад пяцьдзесят. Зайздросна глядзелі мы на мясцовых жыхароў: яны ў унтах, валенках, цёплых дублёнках. Нас-жа адразу пазнаюць, як гасьцей — у гэткае лёгкадумнае адзеньне можа „аблачыцца" чалавек, які ня ведае, што такое Якуція ўзімку (кастрычнік тут месяц зімовы). (Гэта з нумару 37-га „Голасу Радзімы"; далей з № 38 — падзагаловак „Аўтаграф на далёкай зямлі" — Рэд.).

„Вось ужо запраўды для Надзі Лушчык, „зыйшоўся клінам белы сьвет". Няма нічога даражэйшага за гэтыя акуратныя домікі, што прымасьціліся ўздоўж праспэкту Кедышка, дзеля таго, што праспэкт, домікі, магазыны, Дом культуры, кафэ, школа, дзіцячыя сады — усё дзела рук Надзі і яе сяброў, дзяцюкоў і дзяўчат, якія прыехалі сюды з Беларусі.

„Калі Надзя бывае ў водпуску дома на Брэстчыне, часта ўспамінае Якуцію. Удзень заклапочанная ў гаспадараньні — памагае маме, часам з дзяўчатамі ходзіць сена сушыць альбо зерне „лапаціць". Суседзі пра-

цуюць ды з цікавасьцю паглядаюць на Надзю: як яна, ці не адвыкла ад сялянскай работы? Не, не адвыкла. Ды толькі цягне яе Залацінка, да сваіх хутчэй хочацца. Там яе вуліца. Там хлопцы і дзяўчаты прарубаюць лінію ў тайзе.

„На БАМЕ я пытаў у Надзі: „як вершы раджаюцца?" Сьмяецца. — Успамінаю, — кажа — твары дзяцюкоў, іх работу. Успамінаю ,і словы на паперу просяцца. — Многім кедышкаўцам*) абагрэлі сэрца радкі Надзі Лушчык. Асабліва тады, калі мінуў цяжкі дзень, запоўнены працай: даўбалі мёрзлы ці скальны грунт, угрызваліся ў зямлю, каб палажыць пад палатно дарогі трубы. Грунт не здаецца, лопаюцца тросы, глухне бульдозэр. Увечары ў вагончыку ўсе грэюцца. Праўда, не, ня ўсе — хтось вартуе пры агні, падкідае дроўцы. Усю ноч будзе гарэць агонь, усю ноч будзе адтайваць грунт. Забяжыць агнявы на мінутку-другую ў вагончык, хлябне гарачай гарбаткі. Ня сьпіць брыгада. Чытае інжынер Надзя Лушчык хлопцам свае вершы. Знае: слова стому здымае, сілы дае. Усяк можна даваць натхненьне да працы. Можна і вершам, які западае ў душу. Добра, калі праца раджае паэтычнае слова. Здарова, калі паэтычнае слова дапамагае ў працы.

Наўсягды ў маім сэрцы застануцца
Тыя сопкі, марозы, сьнягі;
Залацінка ня проста станцыя,
Гэта станцыя — мая маладосьць.

(Верш напісаны парасейску — Рэд.)

„Галоўна, чаму мы працуем тут, у гэтых суровых умовах, гэта перадусім — пачуцьцё абавязку да Радзімы (гэта ў значаньні СССР), да сяброў і да саміх сябе, — кажа Надзея. Тут кажны прайшоў школу мужнасьці. Слабыя ня вытрымлівалі, ад'яжджалі адразу. Толькі дужыя заставаліся — запраўдныя сябры, адмысловыя людзі, якія заўсёды памогуць, прыйдуць на падмогу.

„Адным з гэткіх запраўдных сяброў для Надзеі Лушчык стала інжынер геадэзіст Валентына Макеева. Раней яна працавала ў Менску. Прыехала на БАМ і першай прайшла па „вуліцах", якія ў той час былі засьнежанай тайгой, вяла разьбіўку вуліц, дамоў, Ёй Надзя таксама прысьвяціла верш.

„Але БАМ — гэта ня толькі праца. У выхадныя і сьвяточныя дні — канцэрты мастацкай самадзейнасьці, знаёмства з калектывамі майстроў мастацтва, спартыўныя спаборніцтвы ,рыбалка, паляваньні...

„Ёсьць на зямлі людзі... Побач іх нельга сумаваць, прытварацца, хлусіць, нельга кепска працаваць. Нельга дзеля таго, што побач з імі гэта выдаецца вельмі брыдка. І не дзеля таго, што яны будуць штось пасуджаць, у чымсь вінаваціць. Нельга дзеля таго, што побач зь імі нельга жыць іначай". Так пісала газэта „Алданский рабочий" пра геалога Карымаву, адну з тых, хто адкрыў Нюрынгрынскі вугальны басэйн.

„Тое-ж можна сказаць і пра Надзю Лушчык, Валентыну Макееву, Ніну Ягніш, Веру Аляхновіч і шмат іншых. Чыгунка на якуцкай зямлі — прыгожы аўтограф, якія пакідаюць тут дзяцюкі і дзяўчаты з Беларусі (пакінулі-ж яны тут і іншы „аўтаграф" — крывавы — пра гэта не гаворыцца — Рэд.).

*) Кедышка — прозьвішча старшыні першага аддзелу высланых у тайгу лесарубаў.



## ТАЕЖНЫ ДЭСАНТ

„Першымі па трасе йдуць разьведвальнікі, а потым ужо лесарубы. Іх дэсант невялікі — сямнаццаць чалавек. Яны вядуць першазмагарства з тайгой, у якой трэба высцерабіць калідор. Цікава назіраць, калі дарогаўкладчык выстаўляе „пакеты" (чужаслоўе нашае — Рэд.) калі мантуюць іх хлопцы. Кажны пакет — 25 мэтраў. Адзін крок дарогаўкладчыка — і БАМ на 25 мэтраў становіцца даўжэйшы. Эфэктыўная работа. — Запраўды эфэктыўная, — згаджаецца Саша Дыдэнка, брыгадзір лесарубаў з першага беларускага ўдарнага камсамольскага аддзелу.

„У Менску Саша працаваў будаўніком, быў у дэпутатах Фрунзенскага раёну Савету народных дэпутатаў. Часьцяком падзякі даставаў, прэміі. Хораша працаваў, адказныя заданьні даручалі яму. (Тут, усё-ж, варта зрабіць заўвагу: якую вагу маюць і як, скажам так, рэспэктуюцца тыя розныя дэпутаты раённых Саветаў, — за гітал дэпутата ды ў Сібір; сам туды напэўна не папёрся-б. — Рэд.).

„Праводзіць іх на БАМ прышлі заслужаныя ў ЦК камсамолу Беларусі будаўнікі рэспублікі, Героі Сацыялістычнай Працы. І пэўна-ж, Вера Паўлаўна — маці камсамольца-падпольшчыка, Героя Савецкага Саюзу Мікалая Кедышка, чыё імя было прысвоена аддзелу. Цяпло провадаў доўга агравала хлапцоў, і калі было цяжка, заўсёды ўспаміналі абяцаньне, дадзенае Веры Паўлаўне: не падвясьці, з чэсьцю пранесьці штандар, на якім імя яе сына.

„Саша нечакана для сябе стаў на БАМе лесарубам. Думаў дамы будаваць, але **сказалі** (падкрэсьленьне нашае — рэд.), што за гэтым справа ня стане, а раней прасека патрэбная. Без яе няма і ня будзе чыгункі.

„Выправіліся ў дарогу ўлегцы. Узялі самае неабходнае — бензапілы, гаручае, харчы. Хто томік вершаў прыхапіў, хто гітару, а Коля Крук — фотаапарат... Цяпер здымкі Мікалая — вартасныя дакумэнты. Спатыкаюцца хлопцы гадоў за дзесяць, дастануць фатаграфіі, і успомняць, як папояс у сьнег правальваліся, але йшлі наперад, „клалі тайгу на абедзьве лапаткі". Будуць углядацца ў густа пакрытых інеем барадачоў і пазнаваць, хто-ж гэта? — Міхута Міхайлаў ці Сяргей Барысавец? А можа Ваня Жардэцкі, Пётра Саўлевіч. Паверх мехавушак — штармоўкі. Неабходныя капюшоны — збавеньне ад „ветрыку". Коля Крук даў у дарунак хлопцам фатаграфію. На ёй тэрмомэтр. Яго рыска застыла на паметцы мінус 46 градусаў Цэльсія.

„Гэта ўдзень, калі прыгрэла сонца, а раніцою усе пяцьдзесяць пяць было, — успамінае Саша Дыдэнка.

„Коля Крук працаваў у Чэрвене (стары Ігумен) цесьляром. А тут узяў у рукі пілу „Дружба". Пяе піла, сіні дымок распаўзаецца па тайзе, бударажыць мясцовую жывёльнасьць незнаёмым пахам цывілізацыі. Працівіцца піле піхта — камялёк зьвязлы трапіўся. Ды куды дзенешся — здрыганулася дрэва, крутнулася і вухнула ня зямлю. А перад гэтым застыў у верхавінах дрэваў голас Міхайлава: — Сьцеражыся!

„Калі ў тайзе пралягла працяробка, брыгаду перавялі на збудаваньне станцыяў. З лесарубаў дзяцюком давялося перакваліфікавацца ў бэтоншчыкаў, цесьляроў, каменяроў. Пра станцыю Аносаўская яны з поўным правам могуць сказаць: — гэта нашая станцыя. І паселішча на дзьве тысячы чалавек, і сто кілямэтраў процерабу, дзе было высыпана палатно, і цяпер бягуць цеплавозы. Гэта таксама праца дзяцюкоў з Беларусі"...

У пасьляслоўі трэба паставіць адно пытаньне: Ці было калісь і дзесь, да часоў Ленінскіх, такое зьявішча, каб катаржанін гэтак выхваляў сваю **катаргу?.. — Рэд.**

Замест вянка на магілу

СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ВЕРЫ РОДЗЬКА

складаем ахвяры на часапіс „Голас Царквы"

Мітр. Прат. а. Васіль Кендыш — 25 дал.
Павал Яськевіч — 25 дал.

## І ЧАГО ТОЛЬКІ НЯМА.

Чаго толькі няма ў калгасе „Ленінскі шлях", Пружанскага раёну! Як вы бачылі, мастацкай самадзейнасьці няма, фізкультурнай работы таксама.

Няма тут ня тое што камбінату бытавых паслуг, а нават прыёмнага пункту, бо ніяк ня знойдуць памяшканьня. Таму часта можна пачуць такую гутарку:

— Марфа, чаму ты ўчора на працу ня выйшла? — пытаецца брыгадзір Аляксей Мікалаевіч Цай.

— Дык-жа, Мікалаевіч, сукенку трэба пашыць, у чаравіках падмёткі адляцелі, вось і езьдзіла ў райцэнтр.

Брыгадзір нічога на гэта не адказвае, а пытаецца ўжо ў другой кабеты.

— А ты, Матруна, чым займалася?

— Бялізну трэба было памыць.

— А на цябе, Мікалай, я дакладную напішу, каб вылічыць за прастой трактара.

— Гэ-э, знайшоў чым пужаць, — агрызаецца мэханізатар. — Бытпрыбораў накупляў, а дзе іх адрамантаваць? Зноў-жа ў райцэнтр трэба ехаць.

Вось такія дыскусіі вядуцца ў брыгадах, пакуль у канторы дыскутуюць, трэба ці ня трэба выдзяляць сродкі на культурна-бытавое абслугоўваньне. А таму няма нават прымітыўнай сталоўкі, дзе-б чалавек мог перакусіць у гарачы, напружаны час палявых работ.

Бо няма ў кіраўнікоў калгаса клопату аб задавальненьні культурна-бытавых запатрабаваньняў людзей. Ня хлебам-жа адным хочуць жыць сёньня калгасьнікі. Аб гэтым яшчэ раз з вычарпальнай выразнасьцю сказана ў пастанове ЦК КПСС:

**„Аб далейшым паляпшэньні ідэялягічнай палітыка-выхаваўчай работы".** (Падкрэсьленьне нашае — Рэд.).

**І. Правасуд.**

(Выпісана поўна і дакладна з газэты ,Работніца і Сялянка", № 8, 1979 год)

## З РЭГІСТРАЦЫІ НАРОДЖАНЫХ

Згодна запісу ў мэтрыкальнай кнізе народжаных у 1979 годзе, дня 1-га сьнежня сёлета была ахрышчана Аліца-Юля, дачка Чарлэса Рычардсона і Юлі Рычардсон, народжанай Дубаневіч.

Абрад хрышчэньня выканаў Мітрапаліт Андрэй у Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Хроснымі бацькамі былі: Іван Лагуш і Ольга МкДэрмонт. Для новае парафіянкі жадаем шчасьлівага доўгага жыцьця і пацехі для бацькоў.

**Х.**